www.nv-online.info

№ 41 (3986)

29 мая 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

**80% беларускіх прадпрыемстваў скарацілі рабочы тыдзень да чатырох дзён. Пра гэта паведаміў прадстаўнік беларускага прафсаюза работнікаў прамысловасці Аляксей Ваганаў. Такім чынам, пятніца на пераважнай большасці прадпрыемстваў ужо стала выхадным днём. І крызісу не відаць ні канца ні краю.**

ПРАПАНОВА

## Смела!

Былы кіраўнік беларускага ўрада, а зараз – спікер верхняй палаты парламента Міхаіл Мясніковіч выступіў з рэвалюцыйным лозунгам-прапановай – раздаць прадпрымальнікам у бязвыплатную арэнду вытворчыя плошчы, якія не выкарыстоўваюцца прадпрыемствамі.

*«Гэтыя плошчы неабходна выявіць, забраць праз рашэнне прэзідэнта і аддаць прадпрымальнікам назаўсёды або на некалькі гадоў, пакуль не вырашыцца праблема занятасці, у бязвыплатную арэнду. Усё роўна яны пустуюць»,* – заявіў Міхаіл Мясніковіч.

У якасці прыкладу ён прывёў Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній, дзе пустуюць велізарныя цэхі. Паводле яго слоў, такая ж сітуацыя і на заводах у Пінску, Слуцку, Гомелі...

Ідэя добрая, хаця немагчыма паверыць, што наша дзяржава нешта бясплатна дасць прыватніку. Цікава і іншае: што замінала Мясніковічу рэалізоўваць свае рынкавыя прапановы, калі ён займаў пасаду прэм'ера?..



СКАЗАНА!

## Не гатовы

Беларусь пакуль не гатова да шчыльнага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам і пагаднення аб асацыяцыі. Пра гэта міністр замежных спраў нашай краіны **Уладзімір Макей** заявіў у інтэрв'ю газеце The Washington Post.

*«На гэтым этапе, я буду казаць адкрыта, мы не гатовы да таго, каб гаварыць аб шчыльных адносінах з Еўрапейскім Саюзам у выглядзе заключэння Пагаднення аб асацыяцыі, напрыклад»,* – паведаміў чыноўнік. Разам з тым кіраўнік беларускай дыпламатыі не выключыў, што больш шчыльныя адносіны з ЕС Беларусь можа мець *«гадоў праз пяць, дзесяць, пятнаццаць. Калі Еўрапейскі Саюз захаваецца як арганізацыя да таго часу».*

У кантэксце ўкраінскага крызісу, адзначыў Макей, гаворка сёння ідзе пра захаванне і ўмацаванне суверэнітэту і незалежнасці Беларусі і шэрагу іншых краін. Асновай палітычнай незалежнасці ён бачыць эканамічны суверэнітэт. *«Таму мы зацікаўлены ў тым, і мы гаворым пра гэта з нашымі еўрапейскімі партнёрамі, каб у нас былі нармальныя гандлёва-эканамічныя адносіны, у першую чаргу з Еўрапейскім Саюзам. Мы не толькі гаворым пра гэта, але і робім канкрэтныя захады»,* – зазначыў міністр.

Кіраўнік МЗС заявіў: *«Мы не баімся, што нехта нападзе на Беларусь, але мы не хочам дапусціць эканамічнага калапсу».*

СКАНДАЛ

## Савет Еўропы ацаніў барацьбу з карупцыяй у Беларусі як «глабальна нездавальняючую»

У 1994 годзе Аляксандр Лукашэнка ішоў на прэзідэнцкую пасаду, абяцаючы бязлітасную барацьбу з карупцыяй. Рыторыка з тых часоў не змянілася, але якія вынікі гэтай барацьбы?

Як высветлілася, з 2012 года наша краіна «здавальняюча рэалізавала" толькі чатыры з 24 рэкамендацый, прапанаваных Групай дзяржаў па барацьбе з карупцыяй (ГРЭКО). Пра гэта гаворыцца ў кароткім рэзюмэ даклада, якое на гэтым тыдні было апублікавана на сайце арганізацыі.

*«Барацьба з карупцыяй стаіць на парадку дня ў Беларусі. Але рэалізацыя рэкамендацый відавочна расчароўвае. Краіна здолела дасягнуць істотнага прагрэсу толькі ў падрыхтоўцы і спецыялізацыі супрацоўнікаў праваахоўных органаў, стварэнні новага механізму канфіскацыі маёмасці і ўкараненні патрабаванняў да бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці, заснаваных на міжнародных стандартах»,* – пішуць аўтары даклада.

У выкананні астатніх рэкамендацый Беларусь не прадэманстравала прыкметнай актыўнасці, хоць сітуацыя з карупцыяй у краіне патрабуе рашучых мер, падкрэсліваецца ў дакладзе: «ГРЭКО выказвае асаблівую занепакоенасць тым, што ў розных галінах, дзе антыкарупцыйныя дзеянні цалкам неабходны, не было абвешчана, ці не плануецца ніякіх ініцыятыў. Як следства, выканаўчая ўлада валодае непрапарцыянальна вялікімі для дэмакратыі паўнамоцтвамі».

Такім чынам, эксперты Групы дзяржаў па барацьбе з карупцыяй ацанілі цяперашні ўзровень выканання рэкамендацый па барацьбе з карупцыяй як «глабальна нездавальняючы». Дарэчы, беларускія ўлады пакуль нават не далі дазволу на публікацыю поўнага тэксту даклада і перакладзе яго на нацыянальную мову, гаворыцца ў рэзюмэ. Гэта можна расцаніць як спробу замаўчаць праблему карупцыі ў краіне.

ДА ВЕДАМА

Група дзяржаў па барацьбе з карупцыяй (ГРЭКО) была створана Саветам Еўропы ў 1999 годзе. У ГРЭКО ўваходзяць Аўстрыя, Азербайджан, Арменія, Бельгія, Балгарыя, Вялікабрытанія, Германія, Грэцыя, Грузія, Італія, Нарвегія, Польшча, Партугалія, Расійская Федэрацыя, Румынія, ЗША, Турцыя, Украіна, Фінляндыя, Францыя, Чэхія, Швейцарыя, Швецыя, Эстонія і іншыя краіны.

**Алег СНОЎ.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Любое цярпенне мае мяжу

Палітвязень Мікалай Дзядок у камеры штрафнога ізалятара парэзаў сабе жывот і рукі. Што падштурхнула хлопца на такі адчайны крок?

Нагадаем, што 27 мая 2011 года суд Заводскага раёна Мінска пакараў Мікалая Дзядка па "справе анархістаў" пазбаўленнем волі на 4,5 года. У лістападзе 2014-га, за тры месяцы да сканчэння тэрміну зняволення, на Мікалая Дзядка завялі новую крымінальную справу, абвінаваціўшы ў парушэнні рэжыму адбыцця пакарання. У выніку замест таго, каб выйсці на волю, Мікалай Дзядок атрымаў дадатковы год за кратамі. 12 мая палітвязня перавялі ў ПК-9 у Горках – так званую калонію для рэцыдывістаў.

Інцыдэнт, у выніку якога Мікалай вымушаны быў параніць сябе, адбыўся праз тыдзень – 20 мая. Як высветлілася, Мікалай у першы ж дзень шмат працаваў, прыбіраў памяшканне і таму лёг спаць за гадзіну да адбою. Гэта і стала падставай для пакарання штрафным ізалятарам. Дадаткова яму загадалі мыць прыбіральні. Зразумела, Мікалай адмовіўся. Бо, паводле няпісаных турэмных "законаў", пасля гэтага ён адразу патрапіў бы ў нізкастатусную катэгорыю зэкаў.

19 мая Мікалай знаходзіўся ў адзіночнай камеры ШІЗА, у якой было вельмі халадна (успомніце, якія былі халады перад Радаўніцай). Усю ноч ён прасіў перавесці яго ў іншае памяшканне, але просьбы былі проста праігнараваны. Тады пад раніцу хлопец параніў сабе жывот і рукі. Толькі пасля гэтага ён здолеў пакінуць камеру. Праўда, пасля таго, як у медсанчасці Дзядку аказалі дапамогу, яго зноў змясцілі ў тую самую камеру.

Бацька Мікалая **Аляксандр ДЗЯДОК** паведаміў "Народнай Волі": *"Калі б не адвакат, мы ўвогуле не даведаліся б пра інцыдэнт з Мікалаем. Ніякіх новых падрабязнасцяў мы не ведаем. Ні пра якое спатканне з сынам нават размовы быць не можа".*

Сам Мікалай сказаў адвакату, што мае намер жыць доўга – іншымі словамі, ён не зламаўся, не стаміўся ад жыцця, ён пратэставаў.

Псіхолаг таксама пацвердзіў, што псіхічны стан пакаранага нармальны і ніякіх суіцыдальных схільнасцяў ён не мае. Праўда, падобна на тое, што ў калоніі робяць усё магчымае, каб ускладніць жыццё вязню, які ў свой час адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. За нейкія два тыдні Дзядок ужо атрымаў ажно чатыры спагнанні.

Былы палітвязень **Мікалай АЎТУХОВІЧ** таксама некалі быў вымушаны ўскрыць сабе вены ў гродзенскай турме. Ён лічыць, што ў Мікалая Дзядка папросту не было іншага выйсця. *"Дзядок, хутчэй за ўсё, зрабіў гэта з-за таго, што ён не мог больш трываць бязмежжа з боку адміністрацыі калоніі. Ёсць у кожнага чалавека свая мяжа цярпення. Калонія, у якую ён патрапіў, мае кепскую рэпутацыю. Бываюць розныя сітуацыі, і ўсе пра гэта ведаюць:напрыклад, пра гвалт, пра тое, што могуць і "апусціць", могуць учыніць розныя правакацыі... Прычым нічога такога не адбываецца, калі гэтаму не спрыяе адміністрацыя ўстановы. Адным словам, Мікалай зрабіў тое, што мусіў зрабіць. Бо не трэба і немагчыма бясконца цярпець здзекі. Ён і без таго доўга трываў. Можа, калі б раней зрабіў тое, што зрабіў цяпер, то яго і не давялі б да новага суда, і цяпер быў бы на свабодзе",* – сказаў "Народнай Волі" былы палітвязень.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПОДСЧИТАЛИ...

## Государство позаботилось

*В Беларуси снизился реальный размер назначенных пенсий*

По сообщению Национального статистического комитета Республики Беларусь, в апреле 2015 года в Беларуси средний размер назначенных пенсий составил 2 миллиона 658,2 тысячи белорусских рублей.

Так, в апреле 2015 года средний размер пенсий по возрасту составил 2 миллиона 748,5 тысячи белорусских рублей, по инвалидности – 2 миллиона 426,5 тысячи белорусских рублей, по случаю потери кормильца – 1 миллион 780,3 тысячи белорусских рублей, социальных пенсий – 1 миллион 296,4 тысячи белорусских рублей.

Реальный размер назначенных пенсий в апреле 2015 года составил 99,1% к апрелю 2014 года.

Кстати, по сообщению Национального статистического комитета Республики Беларусь, в апреле 2015 года, на учете в органах по труду, занятости и социальной защите населения стояло 2 миллиона 561,4 тысячи пенсионеров.

ВЧЕРА

## Закон об амнистии подписан

Александр Лукашенко подписал закон «Об амнистии в связи с 70-летием Победы в Великой Отечественной войне 1941–1945 годов». Об этом вчера сообщила пресс-служба президента.

В документе определены категории подлежащих освобождению от наказания лиц, осужденных за преступления, не относящиеся к категории тяжких и особо тяжких (несовершеннолетние, беременные женщины, женщины и одинокие мужчины, имеющие детей в возрасте до 18 лет, лица пенсионного возраста, инвалиды I и II групп, ветераны боевых действий, лица, получившие ранения в период прохождения службы, осуществления служебной деятельности, пострадавшие от катастрофы на Чернобыльской АЭС, а также некоторые другие категории осужденных). Отдельным категориям осужденных, не подлежащих освобождению, предусматривается сокращение срока наказания на 1 год.

Как отметили в пресс-службе, с учетом сложившейся практики применения амнистии она не распространяется на лиц, к которым в течение 2009–2015 годов применялась амнистия или помилование и которые вновь совершили умышленное преступление; которые полностью не возместили причиненный преступлениями вред (ущерб), не уплатили доход, полученный преступным путем; злостно нарушающих порядок отбывания наказания; осужденных за преступления против мира и безопасности человечества, убийство, умышленное причинение тяжкого телесного повреждения, преступные деяния сексуального характера, бандитизм, терроризм, массовые беспорядки, нарушение правил дорожного движения в состоянии опьянения, повлекшее смерть человека или причинение тяжкого телесного повреждения, незаконный оборот наркотиков и ряд иных преступлений, представляющих высокую общественную опасность.

По информации пресс-службы, в рамках реализации предписаний закона предполагается освободить от уголовного наказания 8,6 тысячи осужденных, в том числе из мест лишения свободы 2,2 тысячи.

Закон вступает в силу со дня его официального опубликования и подлежит исполнению в течение шести месяцев со дня вступления его в силу.

ГРОШЫ

## Чаму долар ірвануў уверх?

*За 10 дзён курс долара вырас на 770 рублёў.*

28 мая на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы **долар** вырас на 180 рублёў да **14.810** беларускіх рублёў. Яшчэ вышэй курс амерыканскай валюты падымаўся 18 сакавіка (15.510).

З пачатку тыдня долар умацаваўся ўжо на 490 рублёў, а за апошнія 10 дзён – на 770. **Еўра** ўчора вырас на 210 рублёў да **16.180**, **расійскі рубель** знізіўся на 5 рублёў да **283** беларускіх.

– Рост долара ў першую чаргу звязаны з падзеннем расійскага рубля ў адносінах да амерыканскай валюты на Маскоўскай валютнай біржы, – адзначае старшы аналітык кампаніі "Альпары" **Вадзім ІОСУБ**. – У апошнія дні долар у Расіі моцна даражэе, а беларускае курсаўтварэнне пабудавана такім чынам, што мы знаходзімся ў залежнасці ад курса расійскай валюты да амерыканскай. Калі папярэднія тры месяцы долар у Расіі таннеў, то і на нашым рынку назіралася зніжэнне курсаў долара і еўра. Але зараз сітуацыя змянілася.

**– Ваш прагноз на бліжэйшую будучыню?**

– Хутчэй за ўсё, зніжэнне расійскага рубля да долара працягнецца. Гэта таксама звязана і з тым, што падаюць кошты на нафту. Дарэчы, долар зараз расце не толькі да расійскага рубля і беларускага, але і ў адносінах да іншых сусветных валют. Калі такая тэндэнцыя захаваецца, мы і надалей убачым рост долара і зніжэнне беларускага рубля. Пры гэтым вартасць валютнага кошыка расце нязначна, таму казаць пра дэвальвацыю беларускага рубля не даводзіцца.

**Алесь СІВЫ.**

ПАДЗЕЯ

## Шчаслівага і светлага жыццёвага шляху вам, выпускнікі!



Яшчэ адзін навучальны год скончыўся. У суботу 30 мая ў школах, гімназіях, ліцэях нашай краіны прагучыць "апошні званок".

Як паведаміла прэс-сакратар Міністэрства адукацыі Юлія Ваніна, выпускныя экзамены за курс базавай і агульнай сярэдняй адукацыі пройдуць з 1 па 12 чэрвеня. Экзамены па вучэбных прадметах, якія праводзяцца ў пісьмовай форме, будуць пачынацца ў 9.00. У 2015 годзе акрамя аб'яўлення па тэлебачанні і радыё тэксты і заданні будуць накіраваны ў кожную ўстанову адукацыі па электроннай пошце і размешчаны на галоўнай старонцы партала Міністэрства адукацыі (edu.gov.by).

Пасля завяршэння навучання ў 9-м класе вучні павінны будуць здаць тры абавязковыя выпускныя іспыты ў пісьмовай форме: беларуская мова, руская мова і матэматыка. Экзамен па гісторыі адменены і перанесены на 11-ы клас.

Выпускнікі 11-х класаў здадуць чатыры абавязковыя выпускныя іспыты – матэматыку, замежную мову, гісторыю Беларусі, а таксама беларускую ці рускую мову па выбары.

РЕЦЕПТ

## Как изменились цены на лекарства?

*«Почему вы не пишете о том, как подорожали импортные лекарства?* – позвонил в редакцию читатель из Минска Константин Коростылев. – *Каждый новый поход в аптеку заканчивается тем, что необходимый мне препарат от давления «Нолипрел» я покупаю по новой цене. А чиновники Минздрава при этом не перестают утверждать, что цены на лекарства находятся под их контролем. Что ж это за контроль такой?!»*

Действительно, так, как стремительно дорожают в Беларуси лекарственные препараты, не дорожают никакие другие импортные товары. За четыре месяца этого года – с января по апрель – медикаменты подорожали на 12 процентов, и это был наибольший рост цен среди непродовольственных товаров.

Мы решили посмотреть, а как, например, изменились цены на некоторые лекарственные препараты за два года. В 2013 году мы делали сравнительную таблицу цен на наиболее популярные у населения лекарства в Беларуси и Украине. А сейчас сравнили их с ценниками, которые присутствуют в столичных аптеках сегодня. И стоит отметить, что цены в долларах на импортные медикаменты остались почти на том же уровне. Если изменились, то незначительно, но все равно в сторону увеличения. Но вот зарплаты в 2013 году и теперь существенно отличаются. Средняя заработная плата в Беларуси в апреле 2013-го составляла **565 долларов** США, а в апреле 2015 года – **457.**

| Название лекарственного препарата | Цена в 2013 году (минимальная и максимальная, в бел. руб.) | Цена в 2015 году (минимальная и максимальная, в бел. руб. |
|---|---|---|
| **Гастал,** Хорватия, №60 | 31.500–41.000 | 46.000–70.950 |
| **Супрастин**, Венгрия, таб. 25 мг, №20 | 36.200-41.420 | 49.000–78.400 |
| **Энам,** Индия, таб. 10 мг | 15.100–21.550 | 23.900–35.600 |
| **Нолипрел А**, Франция, таб. 2,5 мг, №30 | 99.000–129.150 | 163.000–207.250 |
| **Зовиракс**, Великобритания, крем 5%-ный 2 г | 27.740–33.150 | 52.200–58.000 |
| **Но-шпа,** Венгрия, таб. 40 мг, №20 | 16.500–22.000 | 22.000–30.000 |
| **Кардиомагнил,** Норвегия, таб. п/о 75 мг/15 мг, №100 | 37.050–54.100 | 74.500–101.700 |
| **Жанин**, Германия, №21 | 107.200–114.400 | 163.000–207.250 |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## «Універсальны салдат» Андрэй Арлоўскі

*Днямі ў Лас-Вегасе беларускі баец Андрэй Арлоўскі ў рамках турніру UFC 187 у цудоўным стылі перамог амерыканца Трэвіса Браўна з ЗША.*



Арлоўскі адправіў у накаўт Браўна ўжо ў першым раўндзе, і гэта была трэцяя запар перамога Андрэя па вяртанні ў наймацнейшую ў свеце ММА-арганізацыю, якой з'яўляецца UFC.

Цяпер 36-гадовы беларус з 24 перамогамі пры 10 паражэннях падняўся на чацвёрты радок у спісе байцоў у цяжкай вазе.

Нагадаем, што Андрэй Арлоўскі – ураджэнец Бабруйска, які выступае ў змешаных адзінаборствах. Ён не толькі займаецца спортам, але і здымаўся ў кіно – у трэцяй і чацвёртай частках фільма «Універсальны салдат» з Жанам-Клодам ван Дамам. Жыве з жонкай і трохгадовым сынам у Чыкага.

*"Калі я стаў чэмпіёнам свету па самба сярод юніёраў, у Беларусі абяцалі залатыя горы,* – распавядаў Андрэй. – *Але па вялікім рахунку нічога так і не атрымалася. Паступіла прапанова паехаць у ЗША, і я падумаў: чаму б і не? Так, калі я закончыў Акадэмію МУС, думаў, што буду жыць, працаваць. Але звольніўся і аб гэтым не шкадую".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТОЛЬКО ЦИФРЫ

## Бобруйский район признан самым криминальным в Беларуси

Национальный статистический комитет опубликовал отчет по правонарушениям в Беларуси за 2014 год. Звание самого криминального уголка страны получил Бобруйский район, обогнав лидера 2013 года – Глуск.

В Бобруйском районе в 2014 году совершено 1755 преступлений на 100 тысяч человек. В 2013 году лидером оказался другой представитель Могилевской области – гораздо более скромный по численности населения Глусский район. Здесь количество преступлений на 100 тысяч человек составило 1785.

А вот спокойнее всего живется в Браславском районе – здесь за прошлый год зарегистрировано 543 преступления на 100 тысяч человек. Звание самого спокойного района Беларуси курортный район отобрал у Несвижского – там в 2013-м красовалась цифра 489.

А вот глобальная статистика говорит о том, что в Беларуси стало меньше грабежей и разбойных нападений, но участились случаи мошенничества. Кроме того, по сравнению с 2013 годом в Беларуси возросло количество убийств и покушений на убийства.

